ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№31** (2537)

31 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

ВІЗІТ ВЫСОКАГА ГОСЦЯ

## СТВАРАЕЦЦА АДЗІНЫ ПАГРАНІЧНЫ ОРГАН

У Мінску прайшла рабочая сустрэча старшыні Дзяржаўнага камітэта пагранічных войск Рэспублікі Беларусь генерал-маёра Аляксандра Паўлоўскага з дырэктарам федэральнай пагранічнай службы Расійскай Федэрацыі генералам арміі Андрэем Нікалаевым.

Акрамя традыцыйнага абмену інфармацыяй аб становішчы на дзяржаўных граніцах абедзвюх дзяржаў, асаблівая ўвага была ўдзелена выпрацоўцы адзіных падыходаў да палажэння аб Пагранічным камітэце Саюза Беларусі з Расіяй. З гэтай мэтай будуць створаны рабочыя групы на чале з кіраўнікамі штабоў пагранічных войск Рэспубліке Беларусь і федэральнай пагранічнай службы Расійскай Федэрацыі, якім будзе даручана выпрацаваць прапановы аб адзіных падыходах да рэжыму аховы дзяржаўных граніц Беларусі і Расіі з Украінай. Намечана ініцыіраваць пытанне аб рэалізацыі пагаднення паміж урадамі дзвюх краін аб фінансаванні ўладкавання дзяржаўнай граніцы Беларусі з Літоўскай і Латвійскай рэспублікамі. Федэральная пагранічная служба Расійскай Федэрацыі ўзяла на сябе абавязацельствы аказаць бясплатна садзейнічанне пагранічным войскам РБ у праграмным забеспячэнні арганізацыйнай і інфармацыйна-аналітычнай дзейнасці. Пасля абмеркавання гэтых пытанняў адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў.

— Нам удалося, — сказаў Аляксандр Паўлоўскі, — фактычна завяршыць галасаванне палажэння аб Пагранічным камітэце Саюза Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, дзе ідзе гутарка аб стварэнні адзінага пагранічнага органа, які забяспечваў бы ахову межаў дзяржаў, што складаюць гэты саюз. У рамках рэалізацыі палажэння гэтага дагавора мы плануем стварыць сумесную калегію федэральнай пагранічнай службы і дзяржаўнага камітэта пагранічных войск РБ, на якой будуць разглядацца ўсе пытанні, што тычацца арганізацыі аховы дзяржаўнай граніцы і выпрацоўкі прапаноў кіраўнікамі нашых дзяржаў, звязаных з такімі праблемамі. Рашэннем Вышэйшага Савета Саюза старшынёй Пагранічнага камітэта Саюза назначаны дырэктар федэральнай пагранічнай службы генерал арміі Андрэй Нікалаеў.

Для канкрэтнай рэалізацыі гэтых прапаноў у рамках Саюзнага дагавору будзе створаны камітэт па пагранічных пытаннях саюзнікаў, які будзе каардынаваць дзеянні абодвух пагранічных ведамстваў, а таксама распрацоўваць заканадаўчыя і іншыя бягучыя пытанні, якія павінны забяспечыць інтарэсы дзвюх краін у адносінах да тых дзяржаў, якія не ўваходзяць у Саюз.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*АРКАДЗЬ МОРКАЎКА — ПАЭТ ТРАГІЧНАГА ЛЁСУ*

## «ПАВІНЕН БЫЦЬ САМ САБОЙ»

Аркадзь Моркаўка... Паэт трагічнага лёсу. Пачынаў літаратурную дзейнасць у аб'яднаннях "Маладняк" і "Узвышша". Адзін з найбольш актыўных удзельнікаў літаратурнага жыцця 20-х гадоў, пазней ён вымушаны быў маўчаць доўгія гады, быў забыты, несправядліва выкраслены з літаратуры.



На пачатку творчай дзейнасці, у бурлівыя 20-я, упарта і па-сялянску асцярожна даследаваў свой час, плённа ўключыўся ў працэс пераўтварэння жыцця, вітаў новую рэчаіснасць. Разам з тым ужо ў тыя далёкія гады яго цікавілі агульначалавечыя праблемы і касмічныя пытанні, пучнасць чалавека і прыроды, шлях жывой істоты ў Сусвеце. Яму хацелася ўсё зразумець, усвядоміць, асэнсаваць, няспешна ва ўсім разабрацца. А што там, наперадзе, за даляглядам, за чарадой гадоў, за завесай часу? А што ў мінулым, хто мы, адкуль мы? А што далей? ("Я жыў", "Сфінкс"). Вершы ўражваюць сплеcацю думак і пачуццяў, сканцэнтраванасцю, імкненнем да прыгажосці, да філасофскага асэнсавання рэчаіснасці, памкненнем да разгадкі таямніц Сусвету, роздумам пра адвечную знітаванасць мінулага і будучыні, жыцця і смерці, дабра і зла, змрочнага і светлага, матэрыяльнага і духоўнага. Журботны настрой, неардынарны лад мыслення не адпавядалі тагачаснай афіцыйнай палітыцы ў галіне літаратуры. Паэт не мог і не ўмеў прыстасоўвацца да абставін:

> "...калі хто сапраўдны
> музыка,
> Дык павінен быць сам
> сабой."

І Моркаўка змоўк...

Да літаратурнай дзейнасці яго вярнуў 1941 год. Карціны суцэльнага знішчэння (воляю лёсу паэт вымушаны быў застацца ў акупіраваным Мінску), убачаныя на ўласныя вочы, перасягнулі самыя змрочныя прадчуванні. Пад уплывам найцяжэйшых абставін у вершах з'явіліся матывы прадвызначанасці лёсу, безнадзейнасці, бязвыхаднасці ("Я падаю ніжай і ніжай"). Драматызм народнага і асабістага лёсу, жыццё ва ўмовах небыцця прымусілі аўтара звяртацца да вышэйшых сіл, да касмічнага розуму, шукаць паратунку па-за рэальнасцю. На свеце не бывае нічога выпадковага, усе ўчынкі, здарэнні, праявы, сустрэчы, расстанні наканаваны загадзя да з'яўлення чалавека на гэтым свеце ("Зразумеў я Тваё імя..."). Космас стаўся для яго сімвалам чысціні, сум-

**НА ЗДЫМКУ: Аркадзь МОРКАЎКА з жонкай і дачкой. 1934 г.**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Гэта быў незвычайны канцэрт. У Пастаўскім касцёле гучалі творы І. С. Баха, Ф. Гендэля, В. Моцарта, мелодыі невядомых беларускіх аўтараў XVI стагоддзя. Гукі музыкі, узлятаючы да высокіх скляпенняў храма, зачароўвалі слухачоў. А падарыў пастаўчанам гэтыя мінуты прыгажосці Баранавіцкі народны ансамбль старадаўняй музыкі "Кантраданс" — удзельнік і дыпламант шматлікіх музычных фестываляў.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

ДА ГІСТОРЫІ ВІЦЕБСКІХ СІНАГОГ

**МАРК ШАГАЛ:**

## «БЕЗ СВЕЧКІ МАЮ НЕ ПАКІНЬ РУКУ...»

У прадмове да каталога выставы графічных твораў Марка Шагала з музея "Біблейскае пасланне" ў Ніцы і збору сям'і мастака, што ў гэтым годзе ўпершыню экспануюцца ў Беларусі, спадар Клод Жаліф, пасол Францыі на Беларусі, вельмі слушна заўважыў, што пра тую ролю, якую адыграў Віцебск у бачанні свету Майстрам, сказана ўжо вельмі многа. "Але, можа быць, яшчэ не дастаткова заўважаны адмысловы і ўласцівы менавіта Беларусі характар тых горадкоў і мястэчак, дзе так гарманічна суіснавалі габрэйскія рамеснікі і гандляры, беларускія сяляне і рускія функцыянеры, побач з якімі (...) жыло і каталіцкае насельніцтва, блізкае да польскіх традыцыяў". Нельга не пагадзіцца з такою думкаю, бо грунтоўнае вывучэнне глебы, з якой адбываецца рост любой творчай асобы, дае асаблівае, а часам і значна больш дакладнае разуменне ўсяго плёну яе творчасці.

На жаль, яўрэйская культура Беларусі, і ў прыватнасці яе "віцебскі" варыянт, даследаваны вельмі мала. Таму асабліва не рызыкуючы паўтарыць агульнавядомыя факты, дазволю сабе акрэсліць некаторыя старонкі з жыцця віцебскай яўрэйскай абшчыны часоў Марка Шагала.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*СВЯТАЯ СПРАВА?*

### АБ'ЯДНАНЫ РЭФЕРЭНДУМ

Дэпутату Дзяржаўнай думы Расіі Мікалаю Ганчару ўдалося зрабіць саюзнікамі перш за ўсё непрымірымых палітычных праціўнікаў. Пад дзяржаўнымі сцягамі Беларусі і Расійскай Федэрацыі ён сабраў за "круглым сталом" дэлегатаў ад партый і рухаў самага рознага толку з абедзвюх краін.

З расійскага боку ў сходзе ўдзельнічалі дзеячы з КПРФ і блізкага ім па духу Камуністычнага саюза моладзі, руху "Наперад, Расія!" і партыі Барыса Фёдарава, руху "Наш горад" на чале з М. Ганчаром і ДПР (былой партыі М. Траўкіна), а таксама прадстаўнікі прафсаюза абароннай прамысловасці. За "круглым сталом" знаходзіліся і прадстаўнікі Саюза мусульман Расіі, партыі Лебедзя і новапароджанага руху Льва Рохліна. Асабліву важкасць гэтаму надала прысутнасць тут людзей з суперканцэрна "Расузбраенне".

Мінула больш як два месяцы пасля падпісання Дагавора аб Саюзе паміж нашымі краінамі, і стала зразумела, што ніякіх практычных зрухаў у бок рэальнага аб'яднання няма, канстатавалі ўдзельнікі "круглага стала". Мы ўжо не спадзяёмся на наменклатуру, заявілі яны, і самі бяромся за ўз'яднанне нашых рэспублік. Для гэтага і было вырашана арганізаваць рух "Народнае адзінства", які будзе мець аддзяленні ва ўсіх рэгіёнах дзвюх краін.

Старшынёй аргкамітэта беларуска-расійскага руху "Народнае адзінства" выбраны Мікалай Ганчар. Яго намеснікам стаў мінчанін, старшыня Славянскага сабора "Белая Русь" Мікалай Сяргееў.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася пасля пасяджэння "круглага стала", Мікалай Ганчар сказаў:

— Мы гатовы прыняць дапамогу ў нашай святой справе ад любых партый, рухаў, арганізацый. Ад кожнага, хто яе прапануе, за выключэннем людзей, якія прапаведуюць фашысцкія, чалавеканенавісніцкія ідэі.

*МАЛІТВА АБ ПАМЯЦІ*



"Азарычы боль, гнеў, памяць", — пад такім дэвізам праходзіў мітынг былых вязняў канцлагера. На месцы размяшчэння лагера, дзе ляжаць астанкі звыш 9 000 замучаных фашысцкімі катамі савецкіх грамадзян, прысутныя ўшанавалі іх памяць мінутай маўчання. Горкімі былі ўспаміны аб тых страшных днях 1944 года. Многім з прыехаўшых у той час было толькі па 4—10 гадоў, і тое, што яны засталіся жывымі пасля "пекла Азарычаў", можна лічыць цудам.

Удзельнікі мітынгу прынялі зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да дзяржаўных і камерцыйных структур, да ўсіх людзей добрай волі з адной просьбай — увекавечыць памяць тысяч ахвяр фашызму, дапамагчы арганізаваць экспедыцыю па пошуку месцаў масавага пахавання вязняў гэтага лагера на тэрыторыі Калінкавіцкага, Светлагорскага і Рэчыцкага раёнаў, стварыць музей у Азарычах.

НА ЗДЫМКУ: былыя вязні канцлагера "Азарычы" сустрэліся праз 53 гады.

*ДЛЯ ФРАНЦУЗСКІХ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ*

### «КРУГЛЫ СТОЛ» У ПАРЫЖЫ

У пасольстве Рэспублікі Беларусь у Парыжы адбылося пасяджэнне "круглага стала" для французскіх прадпрымальнікаў, прысвечанае праблемам далейшага развіцця двухбаковых гандлёва-эканамічных адносін.

Беларуская дэлегацыя, якую ўзначальваў міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, азнаёміла прадстаўнікоў французскіх дзелавых і фінансавых колаў з эканамічнай сітуацыяй у Беларусі, інвестыцыйным клімататам і найбольш перспектыўнымі напрамкамі супрацоўніцтва.

Сярод удзельнікаў сустрэчы знаходзіліся прадстаўнікі буйных канцэрнаў, такіх, як "Алкатэль", "Сі-Эс Тэлеком", "Салетанш", аб'яднанне вытворцаў камплектуючых для аўтамабільнай прамысловасці.

Беларуская дэлегацыя правяла серыю асобных сустрэч і гутарак з удзельнікамі "круглага стала", што завяршыліся дасягненнем канкрэтных дагаворанасцей аб працягу кантактаў з рознымі міністэрствамі і прадпрыемствамі Беларусі.

*ПЕРШАМУ ГЕРОЮ БЕЛАРУСІ*



Удзячныя жыхары вёскі Арабаўшчына Баранавіцкага раёна ўвекавечылі памяць першага Героя Беларусі ваеннага лётчыка Уладзіміра Карвата своеасаблівым помнікам — падаючым самалётам. Цаной свайго жыцця мужны лётчык накіраваў няспраўны знішчальнік СУ-27 у бок ад акружаных цвітучымі садамі вясковых хат. Самалёт упаў паміж вёскамі Арабаўшчына і Гацішы.

На месцы гібелі Уладзіміра Карвата ўстаноўлены памятны абеліск, а ў цэнтры вёскі Арабаўшчына — помнік адважнаму лётчыку. Заўсёды ля помніка жывыя кветкі ад удзячных жыхароў вёскі Арабаўшчына.

НА ЗДЫМКУ: помнік Герою Беларусі Уладзіміру Карвату ў вёсцы Арабаўшчына.

*"За апошнія дзесяць гадоў у рэспубліцы працэнт прыгавораных да пазбаўлення волі ўзрос ад 22 да 34 працэнтаў. Такім застаецца ён і сёння. Паколькі сістэма папраўча-працоўных устаноў не была толькі ў межах рэспублікі, то вынікі такой карнай практыкі ў поўнай ступені мы не адчувалі.*

*Пасля распаду Саюза, не ўнёсшы адпаведных карэктываў і не зразумеўшы, што крымінальная палітыка з'яўляецца састаўной часткай агульнадзяржаўнай, мы прыйшлі да таго, што сёння надышоў крызіс крымінальна-выканаўчай сістэмы.*

*Рэальна ён выяўляецца ў тым, што на 100 тысяч насельніцтва ў рэспубліцы прыпадае 400 зняволеных. Па колькасці тых, хто знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі, — а гэта 55—57 тысяч чалавек — адносна дарослага насельніцтва мы займаем адно з вядучых месц у свеце. На ўтрыманне зняволеных затрачваецца штогод звыш 3 мільёнаў долараў ЗША. Нашы папраўча-працоўныя ўстановы перапоўнены больш чым на 30 працэнтаў, а следчыя ізалятары — больш чым на 70 працэнтаў.*

*Адпрацоўваюць рэальныя сродкі на сваё ўтрыманне да 30 працэнтаў зняволеных. Прычым іх працоўная занятасць не забяспечана па нашай віне. Праведзеныя на працягу паўтара года дзве вымушаныя амністыі становішча не паправілі. Па-першае, таму, што каля 60 працэнтаў вызваленых ужо зноў здзейснілі злачынствы. Па-другое, не змяніліся ні наша заканадаўства, ні псіхалогія і стэрэатыпы следчых, пракурорскіх і судовых работнікаў".*

*(З інтэрв'ю Валянціна СУКАЛЫ, старшыні Вярхоўнага суда Беларусі "Народнай газеце".)*

*RETRO*



Як высветлілася, адна конская сіла намнога выгаднейшая і больш зручная часам на вёсцы, чым шматсільны "развалюха" трактар, што забірае вялікую колькасць дарагога гаручага. У саўгасе "Бярозаўскі" гэта зразумелі даўно. Цяпер у гаспадарцы больш ста коней. Яны заняты на многіх сельгасработах, якія раней выконваліся з дапамогай тэхнікі, што было нерэнтабельна з эканамічнага пункту гледжання. Але ўся гэта retro-рамантыка, як у нас цяпер кажуць, ад беднасці.

НА ЗДЫМКУ: Іван РУДЗЬМАН штодзённа перавозіць сотні кілаграмаў кармоў да фермы на пары коней.

*ГЕНЕРАТАР НЕЙТРОНАЎ*

### ШОСТЫ Ў СВЕЦЕ

На прампляцоўцы акадэмічнага навукова-тэхнічнага комплексу "Сосны" пасля васьмі гадоў інтэнсіўнай падрыхтоўкі ўведзены ў эксплуатацыю генератар нейтронаў, які па сваіх характарыстыках з'яўляецца адным з наймагутнейшых у свеце.

Падобныя нейтронныя крыніцы ёсць толькі ў лабараторыі імя Лоўрэнса ў Ліверморы (ЗША), універсітэце горада Осака і інстытуце ядзерных даследаванняў у Японіі, а таксама ў Расіі і Германіі.

Новы генератар — састаўная частка сучаснай доследнай базы для далейшага глыбокага вывучэння працэсаў, якія адбываюцца ў ядзерных рэактарах, ён можа выкарыстоўвацца ў эксперыментальнай ядзернай і нейтроннай фізіцы, ядзернай медыцыне і энергетыцы, біялогіі, радыяцыйнай хіміі ды іншых галінах.

У праграме даследаванняў, звязаных з новым генератарам, прымуць удзел навукоўцы ФРГ, Швецыі, Францыі, Расіі.

*СТАТЫСТЫКА АВАРЫЙ*

### ПРЫВАТНІК ПАРУШАЕ ЧАСЦЕЙ

Калі ў першым паўгоддзі мінулага года адбылося 349 аварый, то ў гэтым годзе — 368.

Колькасць загінуўшых павялічылася з 75 да 81, а параненых — з 344 да 418. Пераважная большасць аварый (252) учынена вадзіцелямі індывідуальнага транспарту. Па іх віне адбылося і 53 з 54 здарэнняў, зарэгістраваных у першым паўгоддзі з удзелам нецвярозых. За гэты ж час выяўлена каля 205 тысяч парушэнняў правілаў дарожнага руху, што на 12,2 працэнта больш, чым за шэсць месяцаў мінулага года.

*ЮБІЛЕЙ РУЖАНСКАЙ БАЛЬНІЦЫ*



Адна са старэйшых бальніц Беларусі ў гарадскім пасёлку Ружаны Пружанскага раёна адзначае сваё 120-годдзе. Утвораная ў 1872 годзе, яна мела тады ўсяго тры ложкі і аднаго доктара, цяпер жа мае стацыянар на 150 ложкаў з абслугоўваючым медперсаналам 180 чалавек, сярод якіх 20 высокакваліфікаваных урачоў. Кожны хворы ці той, хто звярнуўся за дапамогай, ідзе адсюль з падзякай урачам і клапатлівым сёстрам.

НА ЗДЫМКУ: хворых прымае загадчык дзіцячага аддзялення Віктар УЛАСЕВІЧ.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ФЕДЭРАЦЫЯ прафсаюзаў Беларусі сабрала 1 мільярд 300 мільёнаў рублёў для аказання матэрыяльнай дапамогі жыхарам Міншчыны і Брэстчыны, якія пацярпелі ад урагану. Збор сродкаў працягваецца.

У БРЭСЦЕ — сенсацыя: нарадзілася тройня, першая за апошнія 10 гадоў. Маці, Вольга Хрысталюбава, нарадзіла траіх дзяўчынак. Цяпер, разам са старэйшай Аленай, у сям'і іх будзе чацвёра.

ДРУГАЯ сенсацыйная навіна — таксама з Брэста. Тут трапілі ў рукі інкасатараў фальшывыя купюры. Не долараўя і нават не расійскія, а беларускія 100-тысячныя. Зроблены яны самым прымітыўным спосабам.

БЫЛЫ Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мячыслаў Грыб пакуль не атрымаў ліцэнзію на права весці адвакацкую практыку. Выдача яе прыпынена ў сувязі з "адміністрацыйным праступкам" — удзелам М. Грыба ў правядзенні мітынга 15 сакавіка гэтага года.

БЕЛАРУСЬ застанецца незалежнай дзяржавай да таго часу, пакуль народ не выкажа сваю волю на рэферэндуме наконт лёсу краіны, заявіў Прэзідэнт А. Лукашэнка ў час сустрэчы на Мінскім авіярамонтным заводзе, адказваючы на пытанне аб магчымым аб'яднанні Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву.

МЕДАЛЁМ Францішка Скарыны за шматгадовую плённую працу ў друку ўзнагароджаны Іосіф Хаўратовіч, загадчык рэдакцыі Беларускай энцыклапедыі імя П. Броўкі.







# ЛЕСАРУБЫ ПАКАЗВАЮЦЬ РУКУ

Здаецца, яшчэ адны спаборніцтвы хутка стануць папулярнымі ў Беларусі. Гэта калі збіраюцца лесарубы, каб паказаць сваё ўмельства. Сёлета такія спаборніцтвы адбыліся на Віцебшчыне.

Першы турнір лесарубаў у нашай рэспубліцы адбыўся ў 1976 годзе. У далейшым яны праходзілі сярод лесанарыхтоўшчыкаў, толькі з 1993 года яго пастаяннымі ўдзельнікамі сталі лесаводы. Некалькі гадоў запар пальму першынства трымаюць лесарубы Мінлесгаса. І на гэты раз удача не абышла іх. У тройку прызёраў зноў увайшлі прадстаўнікі лясных прадпрыемстваў. Прафесіяналізм лесаводаў расце з кожным годам. І пра гэта красамоўна гаворыць той факт, што ўсе 6 месцаў былі іхнія.

Па суме мнагабор'я чэмпіёнам рэспублікі стаў вальшчык Целяханскага лясгаса А. Палуяновіч.

Ненамнога адсталі ад пераможцы А. Смяхоўскі (Глыбоцкі лясгас) і Ю. Равінскі (Гродзенскі лясгас).

У валцы лесу роўных не было А. Шанчуку (Горацкі лясгас). У пачатку спаборніцтва гэты лесаруб меў усе шансы на чэмпіёнскі тытул, але ў далейшым не выкарыстаў свае перавагі і ў выніку заняў шостае месца.

У цэлым спаборніцтва прайшло на высокім узроўні. Экіпіроўка ўдзельнікаў адпавядала ўсім нормам і стандартам правілаў сусветных чэмпіянатаў. Гэта першынство характэрнае яшчэ і тым, што яго пераможца, магчыма, прыме ўдзел у будучым годзе ў чэмпіянаце свету лесарубаў, які пройдзе ў Аўстрыі.

Заўважу, што прахадны бал для заяўкі на такія спаборніцтвы — 1 100 ачкоў. Наш пераможца, як і прызёры, маюць у сваім актыве запас некалькі сот ачкоў.

Чэмпіён свету на апошніх спаборніцтвах набраў 1 800 балаў. Так што арыенцір вызначаны — трэба адточваць сваё майстэрства, каб зрабіць добрую заяўку на наступны чэмпіянат.

**С. САБАДАШ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** эпізоды спаборніцтваў.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# СТВАРАЕЦЦА АДЗІНЫ ПАГРАНІЧНЫ ОРГАН

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У рамках выканання рашэння аб Саюзе будзе існаваць адзіны ўзгоднены рэжым граніц з дзяржавамі, з якімі мяжуе Расійская Федэрацыя і Рэспубліка Беларусь. Пытанні, звязаныя з уладкаваннем участкаў дзяржаўных граніц на гэтых напрамках, павінны фінансавацца з агульнага бюджэту. Астатнія ўчасткі будуць фінансавацца кожнай дзяржавай самастойна.

Згодна з дагаворам паміж Расійскай Федэрацыяй і Беларуссю, у 1996 годзе з абодвух бакоў на ўладкаванне прыбалтыйскага ўчастка мяжы павінна было быць выдзелена па 10 мільярдаў расійскіх рублёў. У гэтым годзе — па 20 мільярдаў расійскіх рублёў. Праблем з выдзяленнем грошай на гэтыя мэты з абодвух бакоў не адзначана.

Натуральна, што ўзнікла пытанне аб тым, ці не звязаны візіт Нікалаева ў Мінск з толькі што прайшоўшай Мадрыдскай сустрэчай, на якой Польшча стала членам НАТО. Аднак, генералы запэўнілі журналістаў, што візіт Андрэя Нікалаева ў Мінск быў запланаваны роўна месяц назад, таму да Мадрыдскай сустрэчы ён ніякіх адносін не мае. Што ж тычыцца магчымых зменаў для заходніх суседзяў, то яны ў выніку падпісаных у Мінску пагадненняў могуць быць толькі ўпэўнены ва ўзмацненні надзейнасці аховы памежных граніц. А ўмацаванне мяжы з польскага боку, якое цяпер ажыццяўляецца нашымі польскімі калегамі, у прыватнасці, на польска-расійскім участку ў Калінінградскай вобласці, сказаў Нікалаеў, мы толькі вітаем.

Наконт пытання аб узмацненні ахоўных мер супраць пранікнення на нашы тэрыторыі нелегальных мігрантаў абодвума генераламі было адзначана, што асноўная барацьба з імі павінна весціся не на лініі мяжы, а значна раней, паколькі, як правіла, нелегальныя мігранты прыбываюць у нашы краіны на зусім легальных падставах у якасці турыстаў ці дзелавых партнёраў, а ў далейшым пры бескантрольнасці ведамстваў, якія павінны адсочваць іх перамяшчэнне па тэрыторыі СНД, зусім вольна перамяшчаюцца па тэрыторыі краін Садружнасці, як правіла, да заходняй граніцы. Так што, пагранічнікі маюць справу толькі з асобнымі спробамі перасячэння граніцы, ажыццяўляемымі з парушэннем існуючага парадку, на самай жа справе неабходна адсочваць наладжаныя каналы перакідкі мігрантаў у нашы краіны, выяўляць арганізатараў гэтых акцый. Што ж тычыцца пагранічных ведамстваў, то па гэтаму пытанню пастаянна ідзе абмен інфармацыяй, праводзяцца сумесныя аперацыі, такія, як "Рубеж-97", у ходзе якіх удаецца лакалізаваць масавае перасячэнне беларускай граніцы групамі нелегальных мігрантаў, асноўны паток якіх ішоў у 1996 годзе.

Увогуле ж, на думку генерала Нікалаева, выказанай ім на сустрэчы з выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэняй, у працэсе інтэграцыі па пагранічных пытаннях Расія і Беларусь ідуць значна наперадзе іншых дзяржаў. Са стварэннем Саюза і Пагранічнага камітэта гэтага Саюза зроблены вельмі вялікі крок наперад. На той жа сустрэчы абмяркоўвалася пытанне, як іншыя дзяржавы СНД маглі б далучыцца да гэтага працэсу ў рамках ужо дасягнутых дагаворанасцей.

Аднак, згодна з дасягнутымі дагаворанасцямі, не толькі расійскі бок будзе аказваць дапамогу сваім беларускім братам па зброі. Было дэталёва агаворана пытанні аб магчымасці прамых паставак у Расію тэхнікі, узбраення і іншых матэрыяльных сродкаў, што выпрацоўваюцца ў Беларусі. Расію ў дадзеным выпадку прыцягвае тое, што тут выпускаецца вельмі высакаякасная тэхніка і па больш нізкіх цэнах, чым у іншых рэгіёнах. Генерал Нікалаеў адзначыў таксама, што "Беларусь валодае няёмным навуковым патэнцыялам, які мы плануем выкарыстаць у інтарэсах забеспячэння бяспекі межаў нашага Саюза". Аднак, не тэхнікай адзінай плануецца абмежаваць супрацоўніцтва пагранічнікаў дзвюх дзяржаў. Па словах генерала Нікалаева, "у бліжэйшы час мы пастараемся зрабіць так, каб пагранічнікі Рэспублікі Беларусь удзельнічалі ў ахове дзяржаўнай граніцы Расійскай Федэрацыі на іншых участках". Услед за гэтым паследавала запэўніванне, што гутарка ідзе толькі аб участках граніцы на прыбалтыйскім і ўкраінскім напрамках, а ўдзел беларускіх пагранічнікаў і ўзброеных сіл рэспублікі ў канфліктах, што адбываюцца не на тэрыторыі Беларусі, не прадугледжваецца.

Што тычыцца перспектыў павелічэння пагранічных войск Беларусі ў святле дасягнутых дамоўленасцей, то, па словах генерала Паўлоўскага, тут усё будзе залежаць толькі ад сітуацыі, якая складзецца на рубяжах нашай Радзімы, паколькі пагранічныя войскі — гэта структура, рост якой залежыць выключна ад абставін.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

<u>**УЛАДА – ГРАМАДСКАСЦЬ**</u>

# НЕ ПАЗБАЎЛЯЦЬ ЛІЦЭЙ ПАМЯШКАННЯ

15 ліпеня ў памяшканні Беларускага гуманітарнага ліцэя адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў.

Выступаючы перад прысутнымі ў зале, вядомы беларускі пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў сказаў, што 1 ліпеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне № 182 рн, паводле якога ў веданне Кіраўніцтва справ Прэзідэнта павінны быць перададзены 22 будынкі ў Мінску, сярод якіх значыцца і дом № 21 па вуліцы Кірава, дзе размешчаны Беларускі гуманітарны ліцэй.

Дырэктар ліцэя Уладзімір Колас сказаў журналістам, што распараджэнне Прэзідэнта краіны стала вядома бацькам і вучням 11 ліпеня, і яны звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з адкрытым лістом, у якім гучыць трывога за лёс яго навучэнцаў. У свой час ліцэй быў створаны ў адпаведнасці з урадавай пастановай у 1990 годзе для пагłыбленага вывучэння беларускай мовы і літаратуры, гісторыі і культуры, а таксама для паляпшэння падрыхтоўкі навучэнцаў да паступлення ў ВНУ гуманітарнага профілю.

У 1992 годзе наш урад перадаў ліцэю будынак па вуліцы Кірава, 21. Пры выбары гэтага будынка ўлічвалася як добрая прыстасаванасць, так і тое, што ў ліцэй вучацца дзеці не толькі з Мінска, але і з шэрагу раёнаў Мінскай вобласці, якія кожны дзень вяртаюцца з заняткаў дадому.

На думку дырэктара ліцэя, пераход гэтай навучальнай установы ў іншае месца кардынальна пагоршыць умовы навучальнага працэсу і можа прывесці да фактычнай ліквідацыі ліцэя. Трэба заўважыць, што Беларускі гуманітарны ліцэй на сённяшні дзень — адзіная ў сталіцы сярэдняя навучальная ўстанова новага тыпу, у якой усе прадметы выкладаюцца па-беларуску.

— У ліцэі, — сказаў Уладзімір Колас, — працуюць педагогі высокай кваліфікацыі, у тым ліку — супрацоўнікі нацыянальнай Акадэміі навук і ВНУ. Сярод выкладчыкаў — дзесяць кандыдатаў навук. У ліцэі навучэнцы атрымліваюць якасныя веды. 142 выпускнікі ліцэя, 95 працэнтаў ад усіх выпускнікоў, паступілі ў прэстыжныя ВНУ.

Сёння 4 выпускнікі ліцэя вучацца ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, 87 — у Беларускім дзяржаўным універсітэце, 15 — у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, 3 — у Беларускай акадэміі мастацтваў... Гэтыя юнакі і дзяўчаты — будучыня нашай дзяржавы.

У сваім адкрытым лісце бацькі навучэнцаў просяць Аляксандра Лукашэнку захаваць за Беларускім гуманітарным ліцэем яго цяперашні будынак.

Трэба заўважыць, што ўлада даўно падбіралася да ліцэя. Увосень мінулага года Адміністрацыя Прэзідэнта абяцала дом № 21 па вуліцы Кірава маладзёжным арганізацыям, але, да гонару моладзі, яна адмовілася ад такога "падарунка". Цяпер будынак перадаецца ў ведамства І. Цішнкова "в целях... обеспечения органов государственного управления необходимыми помещениями".

Педагагічны калектыў Беларускага гуманітарнага ліцэя, бацькі і вучні пратэстуюць супраць дзеянняў улады і звяртаюцца да шырокай грамадскасці ў краіне і за мяжой з заклікам падтрымаць іх у адстойванні сваіх сацыяльных і культурных правоў.

**Казімір ПЕТРАКОЎ.**

## КАРЭЛІЦКІЯ ЧЫТАННІ,

# ПРЫСВЕЧАНЫЯ ІГНАТУ ДАМЕЙКУ

НАЦЫЯНАЛЬНАМУ герою Чылі, выдатнаму вучонаму-асветніку, падарожніку і пісьменніку Ігнату Дамейку (1802—1889), які нарадзіўся ў вёсцы Мядзведка (па-мясцоваму Медзведка) цяперашняга Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, былі прысвечаны IV Карэліцкія краязнаўчыя чытанні, праведзеныя 14 чэрвеня з удзелам навукоўцаў, настаўнікаў, работнікаў устаноў культуры. Арганізавалі чытанні Карэліцкі райвыканкам і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі.

З дакладамі і паведамленнямі выступілі вучоныя з Мінска, мясцовыя краязнаўцы. Доктар гістарычных навук Міхаіл Гурын, чые продкі таксама паходзяць з Мядзведкі, расказаў пра Ігната Дамейку як пра асобу і даследчыка, сябра Адама Міцкевіча, удзельніка паўстання 1830—1831 гадоў, палітычнага эмігранта, вядомага вучонага-геолага, рэфарматара адукацыйнай сістэмы ў Чылі. Тую ж тэматыку прадоўжыў доктар геаграфічных навук Валерый Ярмоленка, які выступіў з дакладам "Дамейка — заснавальнік горнай прамысловасці Чылі". Кандыдат педагагічных навук Ала Баранава гаварыла пра асветніцкія погляды Ігната Дамейкі, кандыдат філалагічных навук Ірына Багдановіч — пра яго перапіску з Адамам Міцкевічам, кандыдат філалагічных навук Уладзімір Мархель — пра воблік вучонага-рэвалюцыянера ва ўяўленнях і сведчаннях Вінцэся Каратынскага. Адам Мальдзіс "рэканструяваў" уражанні, якія магла выклікаць у 1861 годзе выдадзеная ў Вільні "Араўканія" Ігната Дамейкі (потым яе экзэмпляр быў падараваны будучаму музею ў Мядзведкаўскай школе), і прыйшоў да вываду, што кніга, несумненна, выклікала асацыяцыі паміж паняволенымі араўканцамі і беларусамі і тым самым рэвалюцыянізавала грамадства напярэдадні паўстання. Навуковы супрацоўнік Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея Ала Снітко разгледзела фальварковую культуру Навагрудчыны (а ў яе ўваходзілі і Карэлічына) у першай палове XIX стагоддзя — у часы Дамейкі. Міхась Маліноўскі, правадзейны член Геаграфічнага таварыства, крытычна гаварыў пра стан мясцін, звязаных з імем Ігната Дамейкі, у Баранавіцкім раёне.

Былі на чытаннях і даклады, звязаныя з іншымі ўраджэнцамі карэліцкай зямлі, што трапілі на амерыканскі кантынент, з іншымі падарожжамі. Навуковы супрацоўнік мясцовага краязнаўчага музея "Зямля і людзі" Святлана Кошур узнавіла складаны жыццёвы і творчы шлях вядомага спевака Пятра Конюха, які апынуўся пасля вайны ў эміграцыі, жыў у ЗША і Канадзе. Прысутныя праслухалі дзве яго песні, запісаныя для землякоў. Ураджэнец Карэліччыны кандыдат філалагічных навук Уладзімір Навумовіч расказаў пра сваю вандроўку за Ла-Манш, пра знаходкі ў Беларускім музеі і бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.

Удзельнікам чытанняў прыслалі свае прывітанні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Чылі ў Расіі і Беларусі Джэймс Холер, унучка нашага земляка Аніта Дамейка і пляменніца Эва Адахоўская з Чылі. Супрацоўнік Музея зямлі Польскай акадэміі навук Збігнеў Вуйцік перадаў землякам Дамейкі сваю кнігу, прысвечаную вучонаму-асветніку.

Пад вечар удзельнікі чытанняў наведалі Мядзведку: агледзелі месца, дзе стаяў двор Дамейкаў, памятны камень, прысвечаны славутаму земляку, пабывалі ў школе, дзе ствараецца яго музей, далі парады мясцовым настаўнікам-краязнаўцам.

Матэрыялы чытанняў мяркуецца выдаць разам з дакладамі, прачытанымі на папярэдніх чытаннях і прысвечанымі Яну Чачоту.

**Тамара ШКУРКО,**
**рэферэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

## *НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ



Турысты спалохана пазіралі на інструктара: "Што рабіць?"

А што тут яшчэ прыдумаеш? Трэба лезці ў ваду. Вылавіўшы ўсё, што плавала, акрамя дроў, застаюся падтрымліваць на плыву лодку. Весляры стараюцца з усіх сіл, але вецер, сустрэчная хваля, супраціўленне лодкі, поўнай вады, трымаюць яе на месцы. Добра, на беразе заўважылі, што ў нас не ўсё ў парадку, і турысты з іншай групы паспяшаліся на дапамогу. Яны ўзялі нас на буксір, і сумеснымі намаганнямі мы пачалі пакрысе рухацца. Дарэчы, быў верасень, і я хутка зразумеў, што акалею раней, чым мы дабяромся да водмелі. Адштурхнуўся ад лодкі і паплыў. Да берага заставалася кіламетра паўтара. Выйшаў з вады добра замерзлым. На мяне тут жа накінулі спальнік, далі выпіць нешта гарачае і нясмачнае. Толькі праглынуўшы, зразумеў: чай са спіртам — "народны" сродак ад прастуды.

Але ў такі пераплёт турысты трапляюць не часта. Звычайна з большымі ці меншымі цяжкасцямі паспяхова дабіраюцца да паўднёва-ўсходняга берага, дзе "згубілася" вусце Нарачанкі. Пасля доўгага плавання па неабсяжных прасторах Нарачы цікава разглядаць топкія берагі вузкай рачулкі. Яны пакрыты высокімі зараснікамі чароту, які суцэльнай сцяной наступае з берага, быццам спрабуючы перагарадзіць шлях. У некаторых месцах яму гэта ўдаецца, і турыстам даводзіцца прадзірацца скрозь травяныя нетры, адштурхоўваючы вяслом, як шастом. Часам чарот утварае вузкі канал са сценамі, якія калышуцца ад ветру. І тады ўвага засяроджваецца на шматколернасці вады і зарослым водарасцямі дне. Калі нетаропка сплаўляцца па цячэнні, жыццё ракі можна назіраць, як у акварыуме. Па дне, паўзучы быццам назад і шавелячы вусамі, накіроўваецца некуды вялікі чорны рак з адной клюшняй. Над ім бесклапотна прашмыгнула стракатая чародка акунькоў. Насустрач праплыла плотва. А вось там, сярод зараснікаў, прытаіўся шчупак. Адразу не адрозніш ад карчагаў, што тырчаць у вадзе. І толькі тады ён выдае сваю прысутнасць, калі, раскрыўшы страшную, зубастую пашчу, стралою кідаецца на няўважлівых малькоў. Пры гэтым так гучна шлёпае хвастом па вадзе, што сям'я качак, якая прытулілася ля берага, спалохана кракаючы, узлятае і, імкліва апісаўшы два кругі, хаваецца за паваротам ракі.

Наогул птушак, асабліва качак, тут так шмат, што перастаеш звяртаць на іх увагу. І яны адказваюць тым жа, дазваляючы набліжацца да сябе на 6—8 метраў, потым жа бясшумна адплываюць у зараснікі або ныраюць. Спробы вызначыць, дзе і калі яны вынырнуць, як правіла, застаюцца беспаспяховымі. Хіба што выпадкова можна заўважыць за кустом галаву, якая з цікавасцю і насцярожанасцю сочыць за байдаркай. Калі не рабіць рэзкіх рухаў, птушка так і застанецца сядзець, нават калі ты праплывеш ад яе на адлегласці выцягнутага вясла.

Аднойчы ў гэтых мясцінах, сярод топкіх балот, пашчасціла ўбачыць сямейства чорных буслоў. Як толькі яны нас заўважылі, узняліся і паляцелі ў лясную глуш. Чорны бусел — птушка рэдкая і вельмі асцярожная. Жыве ў глухіх забалочаных лясах. Першы раз чорнага бусла я ўбачыў на Палессі, але ні там, ні тут добра разгледзець яго не ўдалося. Птушка нездарма так сябе аберагае, бо знікае і знаходзіцца пад аховай, занесена ў Чырвоную кнігу.

На вадзе, сярод шматстайнай расліннасці, вылучаецца гарлачык белы. Лілея — так у народзе завуць гэтую надзіва прыгожую беласнежную кветку. Яшчэ яе называюць адалень-трава. У былыя часы, адпраўляючыся ў далёкую дарогу, клалі ў ладанку або зашывалі ў пояс кавалачак расліны як талісман, высушаныя лісты падвешвалі да ложка хворага, з лілеямі абходзілі пашу, каб жывёла не прападала.

Гарлачык белы настолькі фатагенічны, што да кожнай кветкі хочацца падплысці бліжэй, сфатаграфаваць. Усе яны прыгожыя і непаўторныя. Але іх тут так шмат! Працуючы вёсламі, стараешся заграбаць асцярожна, каб не закрануць квітнеючую зорачку. Бо гэта вельмі далікатная расліна. Яе лёгка параніць, хутка вяне, калі сарваць. Бывае, гора-падарожнік, спрабуючы падоўжыць радасць валодання прыгажосцю, вырывае кветачку, але ўжо праз паўгадзіны даводзіцца яе выкідваць, паніклую і непрывабную.

Аб паходжанні кветкі расказваюць такую легенду. У велізарным балоце валадарыў пачвара-цар. Вочы ў яго блішчэлі, як гнілушкі, а замест ног былі жабіныя лапы. Побач жыла німфа. Цар вырашыў узяць прыгажуню за жонку. Завабіць дзяўчыну дапамог жоўты гарлачык — нездарма жоўты колер азначае каварства і здраду. Гуляючы па беразе, німфа залюбавалася залацістымі кветкамі. Вырашыўшы сарваць іх, яна ступіла на пень, пад выглядам якога прытаіўся валадар дрыгвы. А праз год на тым месцы, дзе схавалася пад вадою дзяўчына, усплылі беласнежныя кветкі з жоўтым асяродкам — дзеці цнатлівасці і вераломства.

Кветка прыцягвае да сябе не толькі чалавека, але і насякомых. Амаль у кожнай з іх поўзае які-небудзь жучок, збіраючы салодкі пылок.

Любавацца прыгажосцю лілеі можна толькі ў пэўны час — з 7 гадзін раніцы да 6 вечара. На ноч, каб зберагчы красу, яна хаваецца пад ваду. Ліней пісаў: "З усходам сонца белая лілея ўзнімае сваю галоўку з вады і пачынае паступова раскрываць пялёсткі так, што к поўдню кветкавая стрэлка высоўваецца над паверхняй вады на 8 сантыметраў. З захадам сонца кветка не толькі закрываецца, але і павольна апускаецца пад ваду".

Перашкаджаюць свабоднаму руху па рацэ не толькі густыя зараслі гарлачыкаў, іншыя водарасці, але і частыя платы, якія перагароджваюць раку ўпоперак. У такім плоце пакідаецца вузкая шчыліна, каб можна было прасунуцца на лодцы або байдарцы, а пад вадой гэта шчыліна закрыта сеткай, у якую трапляе рыба, ракі. Лавушкі наладжаны так, што, трапіўшы ў іх, назад выбрацца немагчыма. Кожны раз, праплываючы праз такія "барыкады", развязваем сеткі, даючы магчымасць бесперашкодна рухацца па рацэ яе насельнікам.

Першы прыпынак можна і трэба зрабіць за шасейным мостам ля гідралагічнага паста. Тут на правым высокім беразе, сярод соснаў, абсталявана стаянка для турыстаў, вельмі зручная і адзіная для начлегу на гэтым адрэзку шляху. Аднак няма апраўдання таму варварству, што ўсё гэта пабудавана на месцы былых могілак рускіх салдат.

Ведаючы, што недзе тут павінны быць рускія могілкі, неаднойчы блукаў па наваколлі, адшукваючы іх, і нічога не бачыў.

Аднак чарговы раз, прыплыўшы з групай на стаянку, быў у шоку, калі на звыклым месцы заўважыў магільную агароджу і маленькую таблічку з надпісам, што тут пахаваны рускія салдаты, якія загінулі ў час "Нарачанскай аперацыі" ў 1916 годзе. Аказваецца, не трэба нікуды бегаць, варта было толькі звярнуць увагу на роўныя рады ўзгорачкаў, каб зразумець, што гэта за месца...



Далей пойдуць зноў забалочаныя берагі, якія не даюць ніякай магчымасці прычаліць. Таму на начоўку лепш спыніцца ля былой вёскі Гаць.

Яшчэ гэтае месца добрае тым, што адсюль можна зрабіць радыяльны выхад да партызанскіх баз. Стары, ужо закінуты шлях, пабудаваны для патрэб фронту, праз тры кіламетры выводзіць да шашы. Яшчэ тры кіламетры лясной дарогі, і мы ў партызанскай зоне. На ўзгорку, сярод непраходных балот, пад векавымі елкамі былая стаянка партызанскай брыгады імя Варашылава. Тут у час Вялікай Айчыннай вайны размяшчаўся штаб брыгады, Вілейскі падпольны абком партыі і абком камсамола, сакратаром якога быў Пётр Машэраў. У 1960 годзе студэнтамі політэхнічнага інстытута на гэтым месцы ўстаноўлены помнік. Летам 1994 года над лесам пранёсся смерч. Ён вывернуў з каранямі велізарныя елкі, пераламаў магутныя дрэвы папалам, як запалкі. Цяпер да мемарыяла немагчыма нават падысці. Усё завалена паламанымі дрэвамі, але чамусьці такі лёс спасціг дрэвы толькі на невялікай плошчы вакол зямлянак.

Наступны прывал можна арганізаваць толькі ля вёскі Слабада, дзе пачынаюцца бярозавыя лясы са зручнымі палянамі для начлегу.

Чым ніжэй па рацэ, тым вышэй яе берагі, гусцей сасновыя лясы, больш кустоў парэчак, зараснікі малінніку.

Невялікая перашкода сустрэнецца на маршруце ля вёскі Каралеўцы. Пад мостам вялікі зліў, нагрувашчанне валуноў, завалы. Ніжэй па цячэнню ў кіламетрах пяці можна знайсці зручную стаянку для начлегу. Мясціны тут прыгожыя, ягадныя. Заліўная пойма Нарачанкі расшыраецца, лес крыху адступае да лініі колішніх берагоў. Апошнія кіламетры свайго не доўгага 75-кіламетровага шляху Нарачанка цячэ ў глыбокім пясчаным каньёне праз грады камянёў, раскіданых у хаатычным беспарадку па ўсім русле ракі. То тут, то там утвараюцца грывы над падводнымі валунамі. Але рэчка дастаткова шырокая і, калі быць уважлівым, заўсёды знойдзецца праход для байдаркі.

Нечакана, прарваўшыся скрозь зараслі сасновага бору, Нарачанка ўліваецца ў Вілію шырокай паўнаводнай ракой. Зліццё рэк вартае, каб спыніцца тут на днёўку або хоць бы пераначаваць.

**Юрый АКУДОВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—30.**

# ЛЁС СТРАЧАНЫХ ПОЛАЦКІХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

Полацк — адзін з самых старажытных гарадоў усходніх славян. Заснаваны крывічамі. Упершыню ўпамінаецца ў "Аповесці мінулых гадоў" пад 862 годам, але беларускае радыё паведаміла ў чэрвені бягучага года, што археолагі знайшлі ў ім рэчы матэрыяльнай культуры, якія робяць горад старэйшым аж на 500 гадоў. Ды не будзем забягаць наперад і дачакаемся навуковай публікацыі па выніках археалагічных раскопак.

Як вядома з гістарычных крыніц, у X—XIII стагоддзях Полацк быў сталіцай Полацкага княства, самага буйнога на тэрыторыі Беларусі, якое мела самастойную княскую дынастыю Рагваладавічаў. У горадзе развіваліся многія віды рамёстваў (кавальскае, ювелірнае, гарбарнае, шавецкае і інш.). Яшчэ да падзелу хрысціянства на праваслаўе і каталіцызм (сярэдзіна XI стагоддзя) была створана ў 992 годзе Полацкая епархія.

У XI стагоддзі пры князі Усяславе Брачыславічу Полацк стаў галоўным канкурэнтам Кіева. У ім быў пабудаваны Сафійскі сабор у сярэдзіне XI стагоддзя і іншыя храмы. З 1105 года ў горадзе існавала самастойная епіскапская кафедра. У 1101 годзе ў княскай сям'і нарадзілася беларуская асветніца і мецэнатка Ефрасіння Полацкая, унучка Усяслава Брачыславіча. Тут у XII стагоддзі працаваў вядомы ювелір сярэднявечча Лазар Богша, які стварыў крыж па заказу Ефрасінні, узводзіў помнікі архітэктуры дойлід Іаан. Пры ім сфарміравалася полацкая школа дойлідства, якая аказала вялікі ўплыў на далейшае развіццё архітэктуры не толькі Беларусі, але і іншых усходніх славян. Ефрасіння, якая стала манашкай і пазней ігуменняй манастыра, стварыла пры ім скрыпторый і нават сама перапісвала кнігі. Пры ёй была расписана фрэскавым жывапісам Спаса-Ефрасінеўская царква. Яна ж папрасіла візантыйскага імператара Мануіла Комніна (мужа яе цёткі) прыслаць у Полацк абраз "Маці Божай Эфескай", які ёй і быў прэзентаваны ў 1173 годзе. Пачынаючы з XII стагоддзя Полацк быў буйным культурным цэнтрам Беларусі. У XII—XIV стагоддзях у горадзе былі напісаны Полацкі летапіс XII стагоддзя (не збярогся) і Полацкія евангеллі. Яны ўяўляюць тры



рукапісы XII—XIV стагоддзяў.

Створаныя ў Полацкім княстве падчас сярэднявечча культурныя каштоўнасці Беларуссю страчаны. Помнік сусветнай значнасці — Крыж Ефрасінні, як вядома, у апошні раз знік у час другой сусветнай вайны. Яго лёс апісаны ў дзесятках артыкулаў розных аўтараў. Цяпер яго шукае Інтэрпол.

Візантыйскі абраз XII стагоддзя "Маці Божая Адзігітрыя" (пазней атрымала назвы Эфеская, Карсунская і нарэшце Полацкая), які прывезлі ў Полацк з Канстанцінопаля, таксама страчаны. З XIII стагоддзя пачалося вандраванне гэтага абраза. Згодна з адной версіяй, абраз урачыста перавезлі ў 1239 годзе ў Васкрасенскую царкву горада Тарапец з нагоды шлюбу полацкай князёўны Параскевы з роду Рагваладавічаў і князя Аляксандра Яраславіча, які пазней атрымаў ганаровае прозвішча Аляксандр Неўскі.

Згодна з іншай версіяй, абраз "Маці Божая Полацкая" трапіў у горад Тарапец у XVI стагоддзі падчас Лівонскай вайны. Яго нібыта прывезлі з сабой манашкі Полацкага Спаса-Ефрасінеўскага манастыра, якія ўцякалі, ратуючыся ад "самага праваслаўнейшага" цара Івана Жахлівага.



Ужо ў XX стагоддзі абраз "Маці Божая Полацкая" трапіў у Рускі музей Санкт-Пецярбурга.

Дзякуючы вядомаму беларускаму даследчыку кніжных скарбаў Беларусі Міколе Нікалаеву мы маем больш падрабязныя звесткі пра страчаныя Полацкія рукапісы. Так Полацкі летапіс XII стагоддзя ўвогуле не збярогся да нашых дзён, а Полацкія евангеллі XII—XIV стагоддзяў таксама трапілі ў Расію.

Полацкае евангелле XII стагоддзя, якое належала Троіцкаму манастыру Полацка, у XIX стагоддзі трапіла ў Маскву. Асноўная частка дасталася гісторыку М. Пагодзіну, а два аркушы праз І. Бяляева трапілі да калекцыянера В. Ундольскага. У 1852 годзе Полацкае евангелле было куплена разам з усім пагодзінскім кніжным зборам імператарскай Публічнай бібліятэкай і перавезена ў Пецярбург. Цяпер яно захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы Санкт-Пецярбурга.

Астатнія два аркушы, што трапілі да Ундольскага, апынуліся ў бібліятэцы Румянцаўскага музея разам з усім яго бібліятэчным зборам. Гэтая частка Полацкага евангелля XII стагоддзя захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Расійскай Дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве.

Два полацкія рукапісныя пергамінныя Евангеллі XIV стагоддзя, якія належалі манастыру Іаана Прадцечы, як і ілюстраваны рукапіс XII стагоддзя (яго многія даследчыкі адносяць да Полацкіх евангелляў) захоўваюцца ў Расійскай Дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве.

Багатую бібліятэку Кафедральнага Сафійскага сабора г. Полацка разрабавалі ў 1579 годзе войскі караля Стэфана Баторыя. "...Апроч летапісаў, у ёй было шмат твораў грэчаскіх айцоў царквы, і сярод іх творы Дыянісія Аэрапагіта пра нябесную і царкоўную іерархію, усё на славянскай мове". Сакратар С. Баторыя Рэйнгольд Гейдэнштэйн мімаходзь узгадвае ў сваіх мемуарах і пра іншыя нарабаваныя каштоўнасці: "У вачах адукаваных людзей амаль не меншую каштоўнасць, чым уся астатняя здабыча, мела знойдзеная там бібліятэка". Кнігі Сафійскай бібліятэкі былі вывезены часткова ў Кракаў, у карапеўскую бібліятэку. Іх след згубіўся ў XVII стагоддзі разам са слядамі гэтай бібліятэкі. Другая частка Сафійскай бібліятэкі трапіла ў бібліятэку акадэміі ў Замосці.

Рабункі полацкіх кнігасховішчаў працягваліся і пазней. У час вайны 1654—1667 гадоў з Масковіяй з полацкай царквы Параскевы Пятніцы было вывезена ў Растоў і ўкладзена ў Барысаглебскі манастыр Евангелле XVI стагоддзя, заказанае полацкім архіепіскапам Нафанаілам.

Частка полацкіх рукапісных кніг, якія змяшчалі выдатныя помнікі беларускай тэатральнай культуры (зборнікі інтэрмедый) — верагодна загінула ў Варшаве падчас другой сусветнай вайны. У Варшаву іх перадаў расійскі ўрад паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 года з Публічнай бібліятэкі Петраграда.

Невядома куды і як знік з навуковага ўжытку рукапісны полацкі памяннік (датаваны раней XV стагоддзем), які бачыў у 1912 годзе В. Ластоўскі ў Барысаглебскім манастыры. Памяннік пачынаецца з памінання вялікіх князёў Полацкіх, Менскіх-Глебавічаў, Лагойскіх, Віцебскіх, Друцкіх і інш.

Рукапісы XVII стагоддзя навучальных курсаў па фізіцы і логіцы прафесара полацкай калегіі езуітаў Міхала Карвоўскага трапілі ў бібліятэку Віленскага універсітэта, дзе пазней ён быў выкладчыкам.

"Полацкі сшытак" — рукапісны зборнік старадаўняй беларускай музыкі XVI—XVII стагоддзяў (узор беларускай свецкай кантавай культуры) таксама страчаны Беларуссю. Яго зусім нядаўна, у 1956 годзе, набыла бібліятэка Ягелонскага універсітэта ў Кракаве.

Як вядома, пры Полацкай калегіі езуітаў (навучальнай установе, што дзейнічала з 1581 да 1812 года) у 1780 годзе быў створаны музей, які папаўняўся рэдкімі творамі заходнееўрапейскага мастацтва, што звозілі сюды многія езуіты свету, таму што Полацк на 47 год стаў іх цэнтрам, пачынаючы з 1773 года.

Музей быў закрыты па загаду Міністэрства асветы Расіі ў 1830 годзе, а ўсе яго каштоўнасці ў 1831 годзе трапілі пераважна ў расійскія музеі, бібліятэкі і архівы. У Санкт-Пецярбург перадалі мастацкія творы з бурштыну; чатыры пальмавыя лісты з тэкстамі малабарскага пісьма; больш чатырох тысяч гіпсавых адбіткаў разнастайных медалёў; некалькі карцін-копій мастака Нядзвецкага і арыгінальную карціну фламандскай работы. 256 пудоў кніг, сонечны гадзіннік, чарапахавую канторку, калекцыю карцін, абразоў, якія знаходзяцца ў былым музеі атэізму.

У Акадэмію мастацтваў Санкт-Пецярбурга паступілі чатыры старажытныя мазаічныя карціны і дзве копіі мастака Нядзвецкага: адна з выявай Багародзіцы, другая — Марыі Магдаліны.

Частка музейных экспанатаў і Бібліятэчнага збору паступіла ў Маскоўскі універсітэт. У Рыгу вывезлі 300 пудоў рукапісных кніг і столькі ж у Каралевец. Частку бібліятэкі перадалі ў Вільню і Віцебск, рэшта засталася ў Полацку.

Афіцыйных звестак пра вываз архіва Полацкай езуіцкай калегіі няма, але частка яе архіву выпадкова была знойдзена ў Сімбірску, а частка — у аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі.

Невялікая частка алтарных абразоў трапіла ў Польшчу. Дзе знаходзяцца астатнія экспанаты разрабаванага музея, пакуль што невядома.

Ужо ў наш час археолагі М. Каргер і П. Рапапорт вывезлі ў Расію рэшткі фрэскавага жывапісу царквы-пахавальні з Ефрасінеўскага манастыра Полацка і перадалі іх у Наўгародскі музей старажытнай архітэктуры. Для нас гэтыя фрагменты ўяўляюць вялікую каштоўнасць, таму што амаль усе сярэднявечныя фрэскі Беларусі, у тым ліку з многіх полацкіх храмаў знішчаны разам з храмамі, акрамя Спаса-Ефрасінеўскай царквы XII стагоддзя.

**Мая ЯНІЦКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

**НА ЗДЫМКАХ: беларуская нацыянальная святыня — крыж Ефрасінні; Адзігітрыя Полацкая.**

## НАМ ПІШУЦЬ

### ШАНАВАЦЬ РОДНУЮ МОВУ

Для беларусаў, якія жывуць за межамі Беларусі, газета "Голас Радзімы" з'яўляецца адзінай крыніцай, з якой можна даведацца аб навінах, жыцці і становішчы на нашай Радзіме. Той, хто атрымлівае газету, чакае яе, як найдаражэйшага госця. Вось і я атрымаў апошні, 28 нумар за 10 ліпеня г. г., уважна прачытаў і вырашыў напісаць вам ліст пра тое, што мяне найбольш турбуе. На першай старонцы газеты змешчаны два здымкі, зробленыя Віктарам Ставерам, дзе з 3 па 6 ліпеня сёлета святкаваў Мінск дзень свайго нараджэння, а заадно і Дзень вызвалення ад фашысцкай навалы, і Дзень рэспублікі. Відаць, які быў святочны Мінск, з напісанымі вітаннямі, але рускаю мовою. Вось я і задумаўся, чаму, скажам, у Польшчы пішуць польскаю моваю, у Францыі — французскаю і г. д., а вось у Беларусі рашылі карыстацца двума. Ну і карыстайцеся сабе на здароўе!

А што атрымліваецца? У мінулым годзе мне давялося быць у Беларусі. Я ўважна глядзеў перадачы беларускага тэлебачання і для сябе адзначыў, што сам прэзідэнт і яго каманда (акружэнне) беларускаю моваю не карыстаецца, мастацкія фільмы паказваюць толькі адною — рускаю моваю, а ў Мінску збіралі подпісы, каб адкрыць хаця б адзін дзяржаўны універсітэт з беларускаю моваю навучання. Як правіла, розныя дэлегацыі з Беларусі за рубяжом родную мовою не гавораць. Гэта ў той час, калі беларуская мова стала дзяржаўнаю. Лічу, што тыя пасадавыя асобы, якія думаюць, што наша мова "бедная", зневажаючы сябе, свой народ, сваю культуру і зямлю, на якой яны нарадзіліся і жывуць. Зараз у Мінску збіраюцца беларусы на II з'езд беларусаў свету, будуць вырашаць розныя пытанні, якія іх турбуюць. Хочацца пажадаць ім плённай працы і поспехаў, а нашаму ўраду прыслухацца да канкрэтных прапаноў. Сваім суайчыннікам зычу дабра і шчасця, добрага здароўя, любіць і шанаваць родную мову — мову Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, бо мы, беларусы, вартыя таго, каб людзьмі звацца.

З найлепшымі да вас пажаданнямі ваш беларус з Украіны

**Фёдар СЕВЯРЫН.**

Украіна.

### ТРАВЯНЫ ВЕЦЕР

Адразу пасля вайны, у самую нішчымніцу, кінула, каб не пухнуць з голаду, нашую вёску мая сваячка Палашка. Завербавалася, куды вочы глядзяць, і завёз яе аргнабор у Карэлію. На лесапавал. Там нажыла сям'ю і рабіла ў леспрамгасе аж да самай пенсіі. І вось толькі цяпер — праз сорак пяць гадоў — прыехала, каб наведаць, нарэшце, Бацькаўшчыну.

Прыехала ў сваю родную вёску — ніхто яе не пазнае. І яна таксама нікога. Ніводнага знаёмага чалавека. Сабакі — і тыя нейкія чужыя. Азіраецца цётка па баках, хвалюецца, напружваецца нешта ўспомніць, горасна ўздыхае, і слёзы самацёкам плывуць па яе шырокім твары, капаюць на грудзі.

Калі падышоў да яе, госця стаяла каля лаўкі сярод сваіх сяброўак дзяцінства.

— Ой, жанкі мілыя! — пляскала яна ў ладкі. — Як у вас добра! Усе разам жывяце. А я, сарока, вунь куды заляцела. Там у мяне дом, унукі, карова, але душа сюды, на Бацькаўшчыну, цягне. Тут усё мне роднае. Вунь і неба без хмурынкі, і вецер наш травяны, з паплавоў. Чабаркам пахне. І слоўцы ад вас родныя чую.

Яна глыбока ўздыхае, ловіць ротам, усімі грудзьмі духмяны вецер і, не выціраючы слёз, кажа:

— Вось паеду назад. Цяпер, відаць, назусім. Больш мы не ўбачымся. Нічагусенькі мне не трэба. Толькі дайце набраць зямелькі. Хоць жменьку. Я ж па ёй бегала, калі маленькая была. А цяпер і бацька, і маці пад ёй ляжаць. Павязу з сабою гэтую жменьку — хоць калі-ніколі пагладжу яе, памацаю, панюхаю. І зажмуруся. І зажмуруся, што на чужой зямлі памру.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

МАРК ШАГАЛ:

# «БЕЗ СВЕЧКІ МАЮ НЕ ПАКІНУЦЬ РУКУ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У кнізе "Маё жыццё" Шагал, узгадваючы кубак чырвонага віна ў руках свайго бацькі на Вялікдзень, адзначае, што гэтае віно падавалася яму больш цёмным, чым у астатніх: "У ім быў водбліск цёмнай каралеўскай лілеі, змрок "гета" — доля яўрэйскага народа, і спёка Аравійскай пустыні, якую ён прайшоў цаною стольких пакутаў". У часы, калі пісалася "Маё жыццё", пра змрок жыцця ў гета Шагал мог даведацца адтуль жа, адкуль пачэрпнуў веды і пра спёку Аравійскай пустыні — з вусных ці пісьмовых крыніц, аднак толькі не з уласнага вопыту. У Віцебску, як і ў іншых беларускіх гарадах, поліэтнічных паводле складу сваіх насельнікаў, ніколі не існавала ні яўрэйскіх, ні якіх іншых гета. Прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў на працягу стагоддзяў жылі тут побач, і часта сярод насельнікаў адной вуліцы можна было сустрэць і яўрэяў, і беларусаў, і велікарусаў, і палякаў.

Што тычыцца непасрэдна Віцебска, то тут на мяжы XIX—XX стагоддзяў можна было вызначыць пэўныя месцы кампактнага пражывання яўрэйскага насельніцтва (гэта былі пераважна перыферыйныя кварталы розных частак горада). Аднак нягледзячы на тое, што на той час яўрэі складалі каля 50 працэнтаў ад агульнай колькасці жыхароў Віцебска, казаць пра адмыслова яўрэйскія ў архітэктурных адносінах кварталы горада не выпадае. Ролю захавальніка традыцыйнай культуры для розных народаў звычайна адыгрывае вёска. Для яўрэяў-ашкеназаў Беларусі месцам захавання традыцый у галіне будаўніцтва было хутчэй мястэчка, але не горад, у жылой забудове якога выразна прасочваліся рысы уніфікацыі і тыпізацыі. Менавіта ў мястэчку побытавая культура і будзённае жыццё яўрэяў яшчэ маглі сфарміраваць адметнае архітэктурнае асяроддзе, якое ў сваю чаргу пачынала ўздзейнічаць на жыццё сваіх насельнікаў, скіроўваючы яго ў рэчышча спрадвечных традыцый. У горадзе ж комплекс пабудоў жылой сядзібы беларуса мала чым адрозніваўся ад сядзібы яўрэйскай сям'і. І калі на палотнах Шагала архітэктурны пейзаж віцебскай ускраіны набываў выразныя рысы яўрэйскасці, то ў гэтым варта бачыць перш за ўсё талент мастака-міфатворцы, які з дапамогай уласных пластычных і выяўленчых сродкаў ствараў свой горад.

Гарадская прастора Віцебска мяжы стагоддзяў вызначалася высокай ступенню засвоенасці, і ў структуру жыццёвага асяроддзя яўрэйскай абшчыны ўваходзілі розныя аб'екты: сінагогі, жылыя дамы, лаўкі, лазні (міквы), майстэрні, невялікія прамысловыя прадпрыемствы, могілкі. Кожны з гэтых аб'ектаў вымагае асобнага даследавання, а ўсе разам — грунтоўнага вывучэння па асобнай навукова распрацаванай праграме. Спынімся толькі крыху на гісторыі віцебскіх сінагог.

На працягу стагоддзяў дамы малітвы адыгрывалі найбольш істотную ролю ў жыцці яўрэйскага народа і захаванні яго нацыянальнай тоеснасці. Вывучаць гісторыю віцебскіх бажніц надзвычай складана. На пачатку XX стагоддзя ў горадзе налічвалася больш за паўсотні сінагог і малітоўных дамоў, аднак да нашага часу захаваліся рэшткі ўсяго толькі адной бажніцы. Такі стан рэчаў інакш як культурнай катастрофай назваць нельга, бо сінагогі, як вядома, з'яўляюцца найбольш адметнымі праявамі культуры ашкеназаў. Усе віцебскія бажніцы былі знішчаны або апошняй вайной, або культурным нігілізмам, што панаваў у савецкім грамадстве на працягу ўсіх гадоў яго існавання. Усяго толькі некалькі пажоўклых аркушаў архіўных спраў з адзінкавымі чарцяжамі будынкаў, некалькі відарысаў на дарэвалюцыйных паштоўках і фотаздымках ды некалькі выяваў на палотнах віцебскіх мастакоў (у тым ліку і Шагала) — вось, практычна, і ўсе крыніцы, па якіх сёння даводзіцца вывучаць азначаную тэму.

Першыя звесткі пра яўрэяў у Віцебску адносяцца да 1551 года, аднак іх паселішча яшчэ доўгі час не мела статуса абшчыны (гэта значыць, юрыдычнай асобы). Права на будаўніцтва сінагогі на ўласнай зямлі "ў замку або ў горадзе" абшчына атрымала толькі ў 1627 годзе. Паводле звестак Інвентара Віцебска 1640-х гадоў, "школа жыдоўская" знаходзілася ў Ніжнім замку паміж будынкамі праваслаўнай Благавешчанскай царквы і пратэстанцкага кальвінскага зборы. (Варта адзначыць, што слова "жыды" ў Вялікім Княстве Літоўскім ужывалася як традыцыйнае прастамоўнае паланізаванае найменне яўрэйскага насельніцтва і да часу далучэння да Расійскай імперыі не мела ўніжальнай афарбоўкі).

Падрабязныя звесткі пра жыццё абшчыны ў XVIII стагоддзі былі занатаваны ў Віцебскім пінкасе, які яшчэ на пачатку бягучага стагоддзя захоўваўся ў горадзе (ці ацалеў рукапіс да нашых дзён, застаецца невядомым).

У канцы XVIII стагоддзя Віцебск ператварыўся ў адзін з буйнейшых цэнтраў хасідызму на Беларусі. На пачатку, як вядома, беларускія хасіды групіраваліся вакол рэбе Мендэля Віцебскага, рэзідэнцыяй якога было мястэчка Гарадок, што знаходзіцца на адлегласці 30 кіламетраў ад горада. З пачатку 1780 года на чале літоўска-беларускіх хасідаў становіцца рэбе Шнеур Залман Борухаў, родапачынальнік сям'і Шнеурсон, адна з найбольш велічных постацяў яўрэйства апошняй чвэрці XVIII стагоддзя. Нарадзіўся ён у мястэчку Лёзна пад Віцебскам. І яшчэ ў дзіцячым узросце выявіў надзвычайныя здольнасці. Прачуўшы пра таленавітага хлопчыка, адзін віцебскі багацей пажадаў ажаніць яго са сваёй дачкой. У 15 гадоў рэбе Шнеур Залман ажаніўся і пераехаў жыць у Віцебск, вывучаў тут Талмуд і вёў аскетычнае жыццё. Потым ён пераехаў вучыцца ў Мяжырыч да главы хасідаў рабі Довы Бера. Пасля смерці настаўніка вярнуўся ў Лёзна.



НА ЗДЫМКУ: Марк ШАГАЛ. Адзінота. 1933 г.

Рабі Шнеур Залман стаў заснавальнікам новага накірунку ў хасідызме, які атрымаў назву "хабад", а таксама ўвёў новы рытуал у набажэнстве. Дзеянні хасідаў выклікалі актыўны пратэст з боку рабінізму, і на антыхасідскім з'ездзе рабінаў у 1784 годзе ў Магілёве рабі Шнеур Залман і яго паслядоўнікі былі абвешчаны па-за законам. У 1797 годзе на з'ездзе рабінаў у Вільні было прынята рашэнне данесці ўраду на хасідаў і іх правадыра рабі Шнеура Залмана як кіраўніка шкоднай для дзяржавы секты. Старога рэбе закавалі ў кайданы і на калёсах з Лёзна прывезлі ў Віцебск, дзе пасадзілі ў паштовую карэту і адправілі ў Пецярбург. Два месяцы ён правёў у адзіночнай камеры Петрапаўлаўскай крэпасці. Дзень вызвалення рабі Шнеура Залмана — 19 дзень месяца кіслеў — віцебскія хасіды потым заўсёды святкавалі з асаблівай урачыстасцю.

Як згадвалася ў "Статыстычных звестках па Віцебскай губерні за 1808 год", у Віцебску на пачатку XIX стагоддзя было 27 хрысціянскіх храмаў (уніяцкіх, каталіцкіх і праваслаўных) і 4 яўрэйскія школы, узведзеныя з дрэва. Варта адзначыць, што ў наступныя дзесяцігоддзі колькасць хрысціянскіх храмаў у горадзе істотна не ўзрасла, чаго нельга сказаць пра яўрэйскія сінагогі. У 1865 годзе ў Віцебску дзейнічалі ўжо 34 бажніцы, пераважную большасць сярод якіх (каля 80 працэнтаў) складалі хасідскія. Восем з азначаных 34 малітоўных школ размяшчаліся ў мураванках (астатнія — у драўляных дамах), тры з'яўляліся дамовымі бажніцамі віцебскіх купцоў. На пачатку XX стагоддзя колькасць яўрэйскіх малітоўных дамоў у горадзе набліжалася да 60, і па-ранейшаму асноўную большасць сярод іх складалі хасідскія малельні.

Віцебскія бажніцы ў асноўным узводзіліся з дрэва і ў архітэктурных адносінах мала чым вылучаліся сярод гарадской забудовы. Вялікіх мураваных сінагог, якія мелі адметнае архітэктурнае аблічча, было ўсяго некалькі.

Адна з іх размяшчалася на беразе ракі Дзвіны на Мала-Магілёўскай вуліцы і спачатку называлася "Хабадніца", а потым — "Галоўная Харальная сінагога". У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі мне пашчасціла знайсці чарцяжы фасадаў, разрэзы і планы паверхаў, якія датуюцца 1877 годам. Дзякуючы гэтай знаходцы, а таксама выявам на старых паштоўках і фотаздымках, мы маем сёння рэдкую магчымасць скласці дастаткова поўнае ўяўленне аб тым, што прадстаўляў сабой гэты цікавы помнік дойлідства.

Ніводнага фотаздымка драўляных віцебскіх сінагог не захавалася ўвогуле. Таму неацэнную паслугу гісторыкам архітэктуры зрабіў Марк Шагал, пакінуўшы на адной са сваіх гуашаў — "Мая вёска" (1923—1924) — выяву драўлянай бажніцы. Яўрэйскія малітоўныя дамы гарадской ускраіны звычайна ўяўлялі сабой вельмі сціплыя збудаванні, у якіх да асноўнага, прамавугольнага ў плане аб'ёму "ляпілася" двухпавярховая прыбудова з жаночымі галерэямі.

Пра інтэр'еры віцебскіх сінагог і малітоўных дамоў ніякіх іканаграфічных звестак таксама не захавалася. Адзінае выключэнне складаюць толькі некалькі прац мясцовых мастакоў, сярод якіх і працы Шагала. На малюнку "Сінагога" (1917) мы бачым інтэр'ер небагатай бажніцы гарадской ускраіны з біма́й (узвышэннем для чытання Святога Пісання) у цэнтры і Свяшчэнным Каўчэгам ля ўсходняй сцяны, які закрывае чырвоная фіранка з выявай зоркі Давіда. З правага ад Св. Каўчэга боку знаходзіцца рэльеф з выявай сямісвечніка, а ў люстры, што асвятляе памяшканне, гараць таксама сем свечак. Шагал досыць іранічна адлюстроўвае падзеі, што адбываюцца ў сінагозе. Людзі, што прыйшлі сюды стварыць малітву і паслухаць Святое Пісанне, пазбаўлены рэлігійнай экстатычнасці і нават простай засяроджанасці. Чалавек, які павінен чытаць Тору, выглядае разгубленым і засмучаным, гэтаксама, як і адзінокі мужчына ля акна або два хлопчыкі, што сядзяць ля бімы. Асобная група мужчын абкружыла багача ў футравым паліто і занялася абмеркаваннем сваіх спраў ці апошніх навінаў, увогуле павярнуўшыся спіной да ўсходу.

На іншым малюнку — "Шафар" (1911) — Шагал праз яркія колеравыя плямы перадае прыўзняты настрой светлай радасці і свята. Дзея зноў адбываецца ў сінагозе, дзе двое мужчын урачыста трымаюць у руках звіткі Торы, прыціскаючы іх да грудзей, яшчэ адзін трубіць у рог, абвяшчаючы надыход свята, а чацвёрты, галава якога пакрыта талесам, чытае Св. кнігу. Розныя эпізоды з сінагагальнага жыцця адлюстраваны і ў іншых працах мастака ("Панюшка тытуню", 1925, "Вывучаючы Біблію", 1918 і г. д.).

Галоўную каштоўнасць віцебскіх сінагог здаўна складалі сэфер Тэйры (звіткі Торы). Для іх тыражавання ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Віцебску існавала цэлая мануфактурная вытворчасць, якой займалася каля 10 чалавек. Сэфер Тэйры ўяўлялі сабой рукапісныя пергаментныя звіткі даўжынёй у некалькі дзесяткаў аршынных аркушаў (да 60 метраў), якія выконваліся спецыяльнымі перапісчыкамі на тонка выробленых цялячых скурах. Для пісання тэкстаў Майсеева пяцікніжжа карысталіся звычайнымі чарнілімі і індычымі (а на гусінымі ці металічнымі) пер'ямі. На выкананне аднаго звітка патрабавалася шмат часу (не менш чым паўгода), таму каштавалі яны дорага — па 100 рублёў срэбрам. Аднак перапісчыкі недахопу ў заказах не адчувалі, бо заўсёды знаходзіліся ахвотнікі ахвяраваць храму свяшчэнную кнігу. У кожным з віцебскіх малітоўных дамоў захоўвалася да дзесятка і больш экземпляраў Торы.

Са знішчэннем віцебскіх сінагог быў знішчаны цэлы пласт адметнай культуры мясцовых яўрэяў-ашкеназаў у яе архітэктурным, выяўленчым, дэкаратыўна-ўжытковым і духовым праяўленнях. Сёння ў Віцебску застаўся апошні аўтэнтычны будынак мураванай сінагогі — на Рэвалюцыйнай (былой Вялікай Ільінскай) вуліцы, недалёка ад бацькоўскага дома Шагала на Пакроўскай вуліцы. У пасляваенныя дзесяцігоддзі ён выкарыстоўваўся не па прызначэнні — тут размяшчаўся Дом культуры аднаго з прадпрыемстваў горада. Сёння ад вялікага мураванага будынка застаўся адзін толькі касцяк — апошні сведка адышоўшых у нябыт падзей.

У Шагала ёсць верш, прысвечаны Віленскай сінагозе, для якой мастак рабіў роспісы і якая загінула ў агні пажару. У вершы ёсць радкі, пранізлівы сум і роспач якіх цалкам можна аднесці і да віцебскай сітуацыі:

**Дзе кнігі мудрасці — павадыры**
**памкненняў!**
**Дзе сямісвечнікі, дзе вечны**
**кон і скон!**
**Дзе дух, надыханы праз безліч**
**пакаленняў, —**
**з паветрам вырваўся ён, як адэхалон.**
*(Пераклад Р. Барадуліна).*

Зараз зроблены праект рэстаўрацыі будынка, вядуцца будаўнічыя працы па яго аднаўленні. Аднак пытанне аб вяртанні яму першапачатковага функцыянальнага прызначэння не ставіцца, тут зноў плануецца размясціць установу культуры. Шкада, бо ў час, калі Віцебску вяртаецца яго даўняя гісторыя, калі ў горад вяртаецца Марк Шагал, гэтаму помніку таксама павінна быць вернута належнае. Бо, зрэшты, яшчэ ў адным сваім вершы мастак, звяртаючыся да Творцы, прасіў:

**Без свечкі маю не пакінь руку,**
**калі ахінецца цемрай маё жытло.**
**Як я ўбачу здалёку Тваё святло!**

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

# «ПАВІНЕН БЫЦЬ САМІМ САБОЙ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

леннасці, чалавечнасці. Ад жахаў жыцця ён намагаецца ўцячы "У шырокія стэпы маны" ("Манах", "Надлом"). Аўтар спрабуе асэнсаваць трагічныя падзеі з пункту гледжання людскага і нялюдскага, неўміручага і часовага, выйсці на праблемы агульначалавечай значнасці. Паэт здолеў узняцца да ідэі маральнага суда над чалавецтвам за здраду (у тым ліку і самому сабе), адчай, боль, за ўсе крывавыя жахі, якія яно наладзіла на зямлі.

Апроч вершаў, у ваенныя гады былі напісаны паэмы "Пачатак вайны", "Юля", "А ў полі вярба", "Разважанні пра зоры".

Праз усю творчасць паэта, праз усё, напісанае ў даваенныя, ваенныя і пасляваенныя гады, чырвонай ніткай праходзіць бязмежная любоў да "залатога сонца" — Беларусі.

Творчасць Аркадзя Моркаўкі складаная, трагедыйная, філасафічная, не заўсёды лёгкая для асэнсавання і разумення. Нават і сёння яе цяжка "раскласці па паліцах". Ён верыў, што у рэшце рэшт свет дойдзе да ладу, але ўжо не пры ягоным жыцці. Нягледзячы на ўвесь трагізм асабістага лёсу, ён любіў жыццё, імкнуўся да святла і прыгажосці ("Адшумяць і адбалююць войны").

Вершы Моркаўкі апярэдзілі свой час, гучаць, нібы напісаны ў нашы дні.

Большая частка спадчыны дагэтуль не апублікаваная. Вершы "Манах", "Я падаю ніжай і ніжай", "Зразумеў я Тваё імя" друкуюцца ўпершыню.

Прапануем чытачам успаміны пра А. Моркаўку яго дачкі Ларысы Пронінай.

# СЛОВА ДАЧКІ

Пакой быў маленькі: тут размясціліся шафа, ложак ды вузенькая канапа. Пасярэдзіне пакойчыка, які быў нашым домам, стаяў чалавек у цёмнай кашулі і зверху ўніз глядзеў на мяне. Я стаяла перад ім, глядзела знізу ўверх на яго, цягнулася да яго рукамі (я яшчэ не магла гаварыць): мне хацелася, каб ён узняў мяне і падкінуў высока, да столі.

Гэты светлавалосы, прыгожы чалавек быў мой тата.

Пасля я памятаю стройныя рады квітнеючых дрэў — вішні. Тата нёс мяне пад дрэвамі дадому. Мне карцела памацаць і сарваць пышныя гронкі белых кветак, але ззаду ішоў у даматканай світцы дліннабароды белы дзед — татаў бацька. Свавольства ён не дазваляў.

Гэта адбывалася на хутары недалёка ад станцыі "Седча", або "Шаснаццаты раз'езд". Такія мае першыя ўспаміны пра тату. З тых першых памятных мне дзён на працягу трыццаці год тата заўсёды быў побач як самае надзейнае апірышча і абарона, і сёння, праз семдзесят год, ён жыве ў сэрцы і душы як самы светлы ўспамін майго жыцця.

Штогод улетку мы ездзілі на гэты паўстанак "Шаснаццаты раз'езд". Дзедава хата была ў трох кіламетрах ад станцыі, каля самага лесу, побач з гравійкай, якая ішла на Узляны. Хата, мабыць, была вялікая, бо нам з мамай аддавалі асобны *пакой. Ніжэй хаты, за гародам, за садам,* было балота. Увечары над нізінай уздымаўся белы туман і першародную цішыню парушалі толькі апантаныя жабіны спевы. Недзе зусім далёка, між палёў, была чыгунка, і рэха даносіла да хутара паравозныя гудкі.

У нядзелю тата прыязджаў да нас. Ягоны прыезд заўсёды быў для мяне святам. Чакаць яго я пачынала ўжо з самай раніцы. Калі з-за балота, з далёкіх палёў, далятаў глухі і тужлівы паравозы гудок, я ведала, што тата ўжо на станцыі і ідзе да нас. Я выходзіла на шлях, сустракаць яго, ішла ад хаты па сцяжынцы пасярод атавы, дзе скакалі і стракаталі конікі, цяжкія, рознакаляровыя кветкі канюшыны лёгка і ласкава дакраналіся да ног. Гарачае сонечнае паветра поўнілася водарам кветак і ігліцы. Гудзелі пчолы. Я ішла павольна: ведала, што тату трэба час, каб ад станцыі дайсці да мяне. Дарога заўсёды была пустая. Я напружана, іншы раз доўга, углядалася ў бок станцыі, адкуль з'яўляўся тата. Чакала цярпліва. Калі ж удалечыні з'яўлялася чалавечая постаць, я зрывалася з месца і з усіх ног, з усёй хуткасцю, на якую была здатная, так, што выскоквала сэрца, бегла насустрач. Ён усміхаўся, рабіў некалькі шырокіх крокаў, падхопліваў мяне на рукі і падкідаў. Пасля, трымаючыся за рукі, мы ішлі дахаты.

Шчасце сустрэчы паўтаралася кожную нядзелю.

Тата вучыў мяне бачыць зямную красу: ён паказваў, як пад ветрам і сонцам хвалюецца жыта, навучыў слухаць музыку лесу, птушыныя спевы і пчалінае гудзенне, навучыў піць нектар з кветак. Ён паказаў мне, як нейкі цуд, сінюю кветку ў жыце — валошку. Расказваў мне пра ягады і грыбы, пра сонца і аблокі і яшчэ пра мноства самых розных з'яў. І яшчэ ён вадзіў мяне на скрыжаванне дарог, дзе ўзвышаўся вялікі драўляны крыж, падвязаны вышыванным ручніком, аздоблены вянкамі і стужкамі. Тата расказваў пра старажытны звычай — ушаноўваць крыжы дарогі і маліцца аб ажыццяўленні жаданняў. Ён быў здольны адказаць на ўсе мае пытанні і задаволіць прагу ведаў. Я яго бязмежна любіла.

Мы наведвалі ягоную сястру ў Закружжы і родную цётку ў Пярэжары. У Закружцы ўражвала прыгажосць і памеры вішнёвага саду, у Пярэжары — высокія цяўбліны з вялікімі чырвонымі кветкамі — мальвы. На парозе нас сустракала цётка Аўдоцця — высокая, статная, прыгожая. Бялюткая хустка падвязана пад падбародак. Цётка Аўдоцця была малодшай сястрой маёй бабулі, татавай мамы, ён — ее любым пляменнікам. Уваходзілі ў хату. Пахла сырадоем, свежаспечаным хлебам. Налева — вялікі драўляны ложак з гарой падушак, стол побач з шыракалістымі фікусамі, на покуці — іконы з ручнікамі і лампадка. Уздоўж сцен — лавы. Стол накрывалі шэрым даматканым абрусам, ставілі смачныя сялянскія стравы. Садзілі нас на лаўкі такой чысціні, што здавалася, быццам яны толькі-толькі з-пад рукі сталяра.

Даўно пайшла ад нас цётка Аўдоцця, пайшлі яе дзеці, пайшоў любы пляменнік. Няма хутара ў лесе побач з гравійкай на Узляны. Мінула з тае пары шмат гадоў, але ўспаміны пра тыя дні захаваліся ў самых патаемных кутках сэрца і памяці.

* * *

Нарадзіўся тата ў вёсцы Зазер'е ў 1900 годзе. Тут наведваў школу. Казаў мне, што вучыўся разам з найменшымі дзецьмі зазерскага аканома Буйлы, бацькі нашай славутай паэткі Канстанцыі Буйло. Максім Гарэцкі ў сваім артыкуле пра творчасць Аркадзя Моркаўкі піша, са слоў паэта, што брат і сястра Буйло далі яму тады, у 1912—1913 гадах, цэлы пук газет "Наша Ніва", якая зрабіла на яго, як ён сам успамінаў, вялізнае ўражанне. Вершы ён пачаў пісаць гадоў у дзесяць.

На шаснаццатым годзе заявіў бацьку, што не хоча і не будзе рабіць на гаспадарцы, а пойдзе вучыцца. Дзед завёз яго ў Мінск. Мой будучы тата трапіў служыць на тэлеграф. Тут ён сустрэўся са сваёй будучай жонкай, маёй маці, з якою ўзяў шлюб у 1924 годзе.

У Мінску пачалося ягонае літаратурнае жыццё, з'явіліся ў друку вершы. Таксама тут, у Мінску, у літаратурным асяродку, ён пазнаёміўся з Купалам і Коласам. Разам з іншымі маладнякоўцамі часта наведваў іх.

У Мінску лёс звёў бацьку з Максімам Гарэцкім. Духоўна яны былі такімі блізкімі адзін аднаму, што нягледзячы на пэўную розніцу ў гадах, Максім-Беларус называў Аркадзя Моркаўку "мой сынок" (гэта я ведаю з татавых слоў).

Я памятаю, як у наш маленькі пакойчык, да таты, прыходзілі маладыя, вясёлыя, прыгожыя людзі. Яны доўга гаварылі, аб нечым спрачаліся, смяяліся. Пра што гаварылі, я тады, на жаль, не разумела.

У трыццатыя гады, калі пачаўся наступ на беларускую інтэлігенцыю, ягоныя сябры да нас перасталі прыходзіць. Я ніколі больш не бачыла гэтых людзей. Яны зніклі. У нашай сям'і пра іх не гаварылі. Значна пазней, ужо ў вайну, тата расказаў мне, што гэта былі беларуская літаратары Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны, Паўлюк Трус, Янка Тумiловіч і некаторыя іншыя.

Лёс уратаваў майго бацьку ад арышту, і гэты ж лёс змяніў ягонае жыццё: ён пайшоў з літаратуры, пакінуў друкавацца. Не ведаю, ці пісаў ён у трыццатыя гады. Бацька і маці пра тое маўчалі. Школьніцай я ведала, што мой тата інжынер, і была здзіўлена, калі аднойчы выпадкова сярод кніг знайшла невялікую кніжку, на вокладцы якой клубіўся шэраваты дым: Аркадзь Моркаўка "Дым жыцця". Гэта кніжка, якая не змяшчала крамолы, напісаная сялянскім сынам для сялянскай галоты, больш за два дзесяцігоддзі знаходзілася ў спецфондзе і толькі ў 1958 годзе, ужо пасля смерці бацькі, атрымала вызваленне.

Мой тата заўсёды вучыўся: у электрамеханічным тэхнікуме, у політэхнічным інстытуце, пазней, калі рыхтаваўся да заняткаў са студэнтамі БПІ, калі пісаў вершы, калі чытаў, калі з кімсьці гаварыў. У маленькіх блакноціках — сціслыя канспекты ягоных лекцый па электратэхніцы, у вялікім — літаратурныя тэрміны і іхняе значэнне. Здароўе яго ішло на спад, але і ў пяцьдзесят шэсць гадоў ён цікавіўся літаратурай і тэорыяй літаратуры, рабіў занатоўкі з кніг, якія спадабаліся, запісваў выслоўі і думкі геніяў. І ўсё жыццё чытаў. Чытаў кнігі і часопісы, чытаў паэзію і прозу (асабліва любіў паэзію), фантастыку і матэматыку, фізіку і багаслоўе. Чытаў на рускай і беларускай мовах. І заўсёды з захапленнем.

Ларыса ПРОНІНА

Аркадзь МОРКАЎКА

## ВОКА СУРОВАЕ...

Вока суровае поглядам жорсткім
Сочыць за намі аднекуль.
Змоўкніце, людзі, абшары і вёскі,
Станьце, крыніцы і рэкі!

Станьце, спыніцеся... сёння між намі
Нехта нябачаны блудзіць,
Сведчыць магіламі, кажа званамі:
Выйсця няма і не будзе.

Боль над зямлёю ходзіць, як хмары,
Болем напружаны жылкі.
Што ж, яшчэ будуць жывыя ахвяры —
Ёсць жа чужыя памылкі.

*7.X—41 г.*

## МАНАХ

У шырокія стэпы маны
Уцякай ад праяваў жыцця.
Там вятры і бязмежны кавыль
Аб зялёнай начы шапацяць.

А вось тут, дзе шугае жыццё
Нерэальнае, як і мана,
Павалілася з жаху трысцё,
І з туману выходзіць манах.

Прасцірае сухую руку,
Пурпуровыя кветкі кляне.
Словы жудкія соты іткуць
На свядомасці, як на сцяне.

Палахліва прыгнечаны жах
Сінім ценем лажыцца на твар,
І напружана губы дрыжаць,
Паспытаўшы атручаны вар.

А ні выйсця няма, ні надзей.
Захлынаецца жудасны крык.
І манах на сумленне кладзе
Афарбованы золатам крыж.

У шырокія стэпы маны
Крык пакуты бязмежнай пацёк,
Каб адбіць, як расталі званы
Апяваючы смерць і жыццё.

*1942 г.*

## ФАНТАЗІЯ

* * *

Бачылі вочы мае
Стромкія ўзвышшы фантазій,
След леапарда ў траве
На папялішчах Эўразій.

След нечаканы... і крык
Збітай знянацку ахвяры,
Край пурпуровай зары
У пурпуровым пажары.

Бачу, лістаючы дні
Чорнай вялізманай кнігі,
Ў далечы цьмянай, — агні,
Нейкага берага выгіб.

Ціха спаўзае ў ваду
Соннага возера месяц.
Мёртвыя следам ідуць,
Сцежку крывавую месяць.

*10.II—42 г.*

*Ларысе*

Углядаюцца сіняю ласкай
У душу васількі на мяжы...
Каб не сінь гэта, песні і казкі,
Хто б прымусіў нас падаць, а жыць!

І калі апане нас роспач,
Не падняць, не скрануць больш рукі, —
Нечакана, прыгожа і проста
Пазіраюць на нас васількі.

І ў душы мілагучныя струны
Зазвіняць, бы празрысты крышталь:
— Адхварэў, перабыў, перадумаў —
І плыві зноў у светлую даль!

*10.VIII—42 г.*

## ТЭАТРАЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ



У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі адбылася прэм'ера камічнай оперы І. Штрауса "Цыганскі барон". Спектакль паставіў рэжысёр Барыс Лагада, дырыжор — Аляксандр Сасноўскі, мастак — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Ждан, балетмайстар-пастаноўшчык — заслужаная артыстка Расіі Ніна Дз'ячэнка. Прыхільнікі тэатра сустрэліся з вясёлым, камічным прадстаўленнем.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Цыганскі барон".

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.

* * *

Каля сямі гадоў існуе тэатральны калектыў "Бярозка" пры Доме культуры вёскі Старое Сяло Веткаўскага раёна. Яго ўдзельніцы паспрабавалі свае сілы і ў стварэнні эстрадных танцавальных кампазіцый. І, трэба адзначыць, паспяхова.

НА ЗДЫМКУ: Наташа ЧАРТОК і Наташа РЫКАВА ў танцавальнай кампазіцыі "Мэры".

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.










## У ЗАВОДСКІМ ЛЕТНІКУ

**У маляўнічым месцы непадалёку ад Мінска па Заслаўскай шашы размясціўся дзіцячы летнік Дзяржаўнага прадпрыемства станкабудаўніцтва імя С. Кірава.**

**Дзеці называюць яго дэндрарыем, бо на 6 гектарах расце тут каля 40 відаў дрэў і куставых раслін.**

**У першую змену сёлета тут паправілі сваё здароўе і адпачылі каля 300 чалавек. Зараз, у ліпені, у лагеры адпачываюць 280 дзяцей. Большасць з іх — дзеці рабочых з прадпрыемстваў горада Мінска і 84 чалавекі — з Гомельскай вобласці, якія прыязджаюць у лагер на працягу некалькіх гадоў. Дзеці добра харчуюцца і атрымліваюць прафілактычнае лячэнне.**

**А які адпачынак без спорту!! На стадыёне заўсёды шмат дзяцей. Адны спаборнічаюць, гуляючы ў футбол і піянербол, другія рыхтуюць гімнастычныя практыкаванні, трэція спаборнічаюць у трохбор'і, гуляюць у Спартландыю.**

**6 чэрвеня надоўга запомніцца адпачываючым. У лагеры адзначылі Купалле. Гучалі беларускія песні, дзеці вадзілі карагоды, Іваны і Купалінкі шукалі папараць-кветку, пускалі на ваду вяночкі, спявалі і танцавалі каля вогнішча.**

**Ж. БАБАРЫКІНА,**
**старшы педагог.**

**Здымкі ў летніку зроблены Віктарам СТАВЕРАМ.**





*ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ*

## ПЛЕНЭР У ДУДЗІЧАХ

Шырокую вядомасць у нашай краіне набывае музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі", што існуе ў ваколіцах вёсак Дудзічы і Пціч. Асветніцкая ўстанова з'яўляецца ці не адзіным прыватным музеем краіны, а то і ўсяе Усходняй Еўропы. Гаспадары музея — пісьменнік, публіцыст Яўген Будзінас, выдавецкая фірма "Паліфакт".

Адна з апошніх падзей у "Дудутках" і ўвогуле ў ваколіцах Дудзіч — першы міжнародны пленэр маладых скульптараў. Упершыню ён праводзіцца па рашэнні Інтэграцыйнага камітэта чатырох краін — Беларусі, Расіі, Казахстана і Кыргызстана. І маладыя творцы якраз з гэтых дзяржаў увасабляюць свае творчыя ідэі на старажытнай пухавіцкай зямлі.

Ёсць некалькі выразных супадзенняў, што робяць гэты пленэр не выпадковым на Пухаўшчыне. Па-першае, яшчэ ў XIX стагоддзі па гэтых панадпціччанскіх прасторах хадзіў, вышукваў тут сюжэты, асэнсоўваў мастацкія ідэі беларускі скульптар Казімір Ельскі. У 1810 годзе ён вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У свой час узначальваў кафедру скульптуры на факультэце жывапісу, скульптуры і архітэктуры Віленскага універсітэта. Менавіта Казімір Ельскі стварыў статуі ў бакавых партапах Віленскага кафедральнага сабора. Казімір Ельскі — аўтар мастацтвазнаўчага трактата "Аб сувязі архітэктуры, скульптуры і жывапісу".

І другая выключна пухавіцкая акалічнасць пленэра: яго мастацкім кіраўніком з'яўляецца пухаўчанін Аляксандр Фінскі — досыць вядомы сучасны беларускі скульптар. У энцыклапедычнай нататцы пазначана, што нарадзіўся ён у вёсцы Вясёлы Гай у 1953 годзе. Праўда, сам скульптар заўважае, што, хаця і звязаны радаводным дрэвам з Вясёлым Гаем, Турынам, нарадзіўся ўсё ж у мястэчку Пухавічы, пасля жыў у Мар'інай Горцы. І вось зараз на пленэры як быццам вяртаецца на родную пухавіцкую зямлю.

— Амаль месяц, праведзены на старажытнай дудзіцкай зямлі, — гаворыць Аляксандр Фінскі, — я ўпэўнены ў гэтым, стане крыніцай, сапраўдным энергетычным рухавіком на заўтра, на будучыя творчыя здабыткі... Матэрыялам для скульптараў з Беларусі, Расіі, Казахстана, Кыргызстана з'яўляецца дрэва. А работы, выкананыя тут, на Пухаўшчыне, будуць выстаўлены ў Маскве.

Застаецца дадаць, што ў адкрыцці пленэра прынялі ўдзел сакратар праўлення Саюза мастакоў Беларусі Святлана Гарбунова, вядомы беларускі скульптар Уладзімір Слабодчыкаў. І яны, падобна іншым гасцям, у захапленні ад пухавіцкай зямлі, ад выключна прыгожых панадпціччанскіх краявідаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ВЫСТАВА ТРОХ МАСТАКОЎ. РОЗНЫХ ДЫ ЦІКАВЫХ

Лідчане зноў у захапленні: іх прыемна здзівіла і ўзрушыла чарговая выстава ў мастацкай галерэі. Тут прадстаўлены творы трох мастакоў. Навагрудчанін Аляксандр Кундра, былы настаўнік, даўно займаецца разьбой па дрэву і выставіў на суд грамадскасці свае самабытныя вырабы. У жывапісе і графіцы вызначыўся мастак з суседняга Іўя Іван Васюкевіч. Яго работы таксама прыхільна сустрэты паклоннікамі мастацтва.

Асобна варта сказаць пра экспазіцыю Яўгена Казюлі, былога супрацоўніка газеты "Голас Радзімы". Глядзіш на яго творы і міжволі думаеш: як многа можна сказаць з дапамогай фота! Вялікае ўражанне ў гледачоў выклікаюць мастацкія здымкі простых людзей зямлі і працы. Выклікаюць захапленне і работы, якія аб'яднаны серыямі "Палессе", "Шлях да святынь", "Вясковыя замалёўкі".

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і надрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1074. Падпісана да друку 28.7.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**